ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА № 12

Двухтыднёвая часопісь для меншых дзяцей
ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ

1932
ГОД ВЫДАНЬНЯ 4

# МОПРАЎСКАЯ

Словы і муз. М. КРАСЕВА.

ПАВОЛЬНА



Це мень і вільгаць, жа лез ны я кра-ты...



е ў ка-зэ-ма-тах леп-шы ат рад зма-га---роў



Зьдзек, ка та ваньне і кроў. Гі не па турмах гні

Цемень і вільгаць... Жалезныя
краты...
Зьдзек, катаваньне і кроў...
Гіне па турмах, гніе ў казэматах
Лепшы атрад змагароў.

Шнырыць усюды фашысцкая
зграя...
Чуеце звон ланцугоў?
Гінуць у Індыі, Польшчы, Кітаі
Масы паўстаўшых рабоў.

Час надыходзіць суровай адплаты
За катаваньні і кроў...
Вызваліць з турмаў закутага брата
Ты, піанэр, будзь гатоў!

Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КАМСАМОЛЬСКАЯ, 52

ПАПРАЎКА. Памылкова другі радок нотаў у песьні пастаўлены на месца трэцяга, а трэці на месца другога.

# Дзень вызваленьня

11-га ліпеня мы сьвяткуем, як дзень вызваленьня ад белапалякаў.

У 1919 г. польскія паны ўзьнялі вайну супроць савецкай улады. Ім дапамагала ў гэтай вайне буржуазія ўсіх краін і ўсе белыя царскія генэралы.

На нейкі час польскім паном удалося захапіць Савецкую Беларусь і іншыя часткі Савецкага Саюзу.

Беларусь апынулася ў няволі польскіх паноў і жандараў.

Але нядоўга раскашаліся ў нас паны.

11 ліпеня 1920 г. магутная Чырвоная армія пры дапамозе партызан і ўсіх працоўных вызваліла Менск, а разам з ім і большую частку Беларусі ад белапалякаў.



*Так распраўляліся азьвярэлыя польскія бандыты з рабочымі і сялянамі заняволенай Беларусі.*

У час вайны белапалякі разбурылі і спалілі лепшыя нашыя гарады, мястэчкі і вёскі. Пакінулі пасьля сябе адны руіны ды папялішчы.

З таго часу мінула 12 год.

**Што-ж мы маем зараз у Савецкай Беларусі?**

За гэтыя гады вольная Савецкая Беларусь ня толькі аднавіла ўсё разбуранае белапалякамі. Зараз няма таго кутка, дзе-б не нарадзілася што-небудзь новае за гэты час—вялізарныя новыя фабрыкі і заводы, калгасы, школы, больніцы ды і не пералічыць адных толькі назваў.



*Спалены і разбураны белапалякамі гор. Барысаў.*

Больш таго новыя людзі вырасьлі за гэты час—піанэры, акцябраты. Сярод рабочых і калгасьнікаў таксама вырасьлі сотні тысяч новых людзей—ударнікі. Гэта героі нашага вялікага будаўніцтва.

Няграматная, цёмная, прыгнечаная акраіна былой царскай Расіі ператвараецца ў зусім новую краіну.

Зараз у нас ужо зусім цяжка знайсьці няграматнага чалавека сярэдніх гадоў, ня кажучы пра дзяцей. Іх засталося сотні—тыя, што на сёньня яшчэ не пасьпелі стаць граматнымі. А 12 гадоў таму назад няграматнымі былі мільёны. Былі вёскі дзе, вякамі ня бачылі ў вочы кніжкі, газэты, бо ніхто ня ўмеў чытаць.

Усяго гэтага дабіліся працоўныя Савецкай Беларусі толькі ў вольнай краіне, якая ў саюзе з іншымі савецкімі рэспублікамі, пад кіраўніцтвам партыі Леніна, з посьпехам будуе сацыялізм.

**Што-ж робіцца зараз там, у заняволенай польскім фашызмам Заходняй Беларусі?**

Зусім нядаўна мы атрымалі весткі, што польскія фашысты наладзілі пагром апошніх беларускіх школ і школьных арганізацый.

Такім чынам, за гэтыя 12 гадоў белапалякі зусім зьнішчылі беларускую школу.

Яны, праўда, з ахвотай падтрымліваюць беларускую

буржуазна - кулацкую школу і тых, беларусаў, што здрадзілі працоўным масам, служаць польскім панам. Але такіх адзінкі.

Масы працоўных паўстаюць і супроць улады паноў, і іх школ, і такіх беларусаў—фашыстаў.

Заходняя Беларусь стогне ў няволі. Голад, жабрацтва, турмы—вось што прынесла Заходняй Беларусі ўлада фашыстаў.



*Электрастанцыя Бабруйскага камбінату, пабудаванага ў першыя гады пяцігодкі.*

Але з кожным днём расьце гнеў і абурэньне мільёнаў, якія становяцца пад сьцягі камуністычнай партыі Заходняй Беларусі і Польшчы. Працоўныя ведаюць, што толькі пралетарская рэвалюцыя прынясе волю ўсім прыгнечаным народам.



*Дом Ураду ў г. Менску. У гэтым доме будуць зьмяшчацца ўсе галоўныя ўрадавыя ўстановы.*




**Апавяданьне С. БАРАНАВЫХ**
**Малюнкі М. ПАШКЕВІЧА**

Дзядзька мой, Тодар, барануе грэчку. Барана такая шырокая ў дзядзькі, што аж дастае мяжу дзядзькі Рыгора, а з другога боку— мяжу майго бацькі. Я пасу нашу Машку на сьценцы і думаю сам сабе: „ня мог Тодар зрабіць вузейшае бараны. Усю мяжу нашу абдзярэ бакавым заднім жалезным зубам“.

Машка смачна шчыпле дзятлік і я пераводжу мае думкі на яе мызу. У Машкі вельмі мяккая мыза. Яна спрытна глэмае, мусіць, смачны дзятлік.

А надвор‘е такое ветлае... Учора пад вечар крапіў дожджык—бацька казаў, што пойдуць грыбы расьці. Мне ня вельмі-то хочацца стаяць на сьценцы. Вельмі-ж марудная работа, гэтая паша. Ды калі ящчэ, чую я, вунь дзе, на Цітавым узгорку, Цітаў Сьцёпка з Амяльлянавым Ванькам качаюць кацёлку...

„От-бы я загнаў гэтага Амяльлянчыка з кацёлкай...аж пад самае балота“, думаю я. Але раптоўны грукат перапыняе мае думкі.

— Ці не абоз гэта едзе?—кажа мне дзядзька, адкідаючы барану на завароце.

— Хто яго ведае,—кажу я,—можа і абоз.

Калі дзядзька Тодар пытае ў мяне пра абоз, я сморгаю нашу Машку за вобраць: хай бачыць ён, што Машка ў мяне не разбазырана.

— Еш, еш...—кажу я Машцы, і мяне апаноўвае злосьць на дзядзьку Тодара. Ён, калі адкідаў барану—зачапіў палавінаю бараны за нашу мяжу і адарваў ад яе цэлы кавалак. Я спрунжыніў мае губы—сплёўваю ад гэткай работы, ды сам сабе думаю:

— Стары чалавек, як малы ўсёроўна...

А грукат яшчэ большы чуваць за Карповічаваю кудзяркаю.

— Гм...—думаю я, няўжо-ж гэта абоз?

Але мяне перапыняе старая Марыся:

— Цышка, Цышка... Цышка,—чую я як на ўвесь голас кліча Марыся сваю перапёлістую сьвіньню.

— Мусіць, недзе ці ня ў грады ўвабралася,—падскоквае да мяне думка. Нямашака на яе белых палякаў...

Праз усе гэтыя дні ішлі белых палякаў абозы. Мой бацька казаў, што ім вельмі зрабілася крута. Бацька казаў, што іх і вунь як прышпічылі нашыя чырвоныя армейцы. Дык яны як мага праз усе дні валам валяць па гасьцінцы. І пазаўчора ў дзядзькі Флёркі забралі рабога парсючка.



*Я пасу нашу Машку.*



*На ўсю выскачку ляціць Машка...*

Як плакала ды як прасіла Флёрчыха ў іх, каб ня бралі... У іх-жа быў толькі ён адзін як на развод.

Да чаго белыя палякі не бяруць на ўвагу, калі хто плача.

І я сморгаю Машку за вобраць:

— Скубі, скубі,—кажу я на Машку ды пазіраю, чаго яна наюдзіла свае вушы.

Аж раптам:

— Садзіся!..—чую я, крычыць мне дзядзька Тодар.

Я не разумею, чаму ён крычыць мне „садзіся“?

— Садзіся!—на ўвесь голас крычыць дзядзька.

Тады бачу я, як ён спрытна адчэплівае ад бараны пастронкі ды сядае на свайго каня. Я зразумеў цяпер, што і мне ён кажа, каб я садзіўся.

— Куды ён?..—пачынае сьвідраваць мяне думка. Але не пасьпеў я падумаць гэта, як бачу:—да нас імчыцца на кані белы паляк.

Увесь ён вельмі-ж прыбраны: з шашкаю, з лявор-варам, з стрэльбаю.

І я зразумеў: дзядзька Тодар крычыць, каб мы ўцякалі. У мяне адразу падумалася думка, што ён хоча забраць нашу Машку і дзядзькавага каня.

Праз усе дні гэтыя, як ішлі белыя польскія абозы— мы хаваліся на балоце. Нашы коні вельмі нават не баяцца балота; найболей наша Машка... Яна табе па самае чэрава ўлезе аж у самую твань і будзе мяньціць павітуху.

Мой бацька кажа, што гэта залатая кабыла...

— Стой... стой!—на ўсё поле крычыць прыбраны белы паляк. А мы—як ня чуем. Я цяпер вельмі моцна трымаюся за Машчыну вобраць. На ўсю выскачку ляціць Машка. Я з усяе сілы тузаю вобраць, каб яна яшчэ мацней бегла. Вось, вось, здаецца—дагоніць мяне белы паляк. У мяне аж ёкае сэрца, што ня будзе тады нашай Машкі.

—Нну-у-у! Ну-у-у!..—цісну я, стукаю босымі нагамі па яе цёплых бакох. Ну-у-ж!..

Але што-ж гэта?—мы разьехаліся з дзядзькам Тодарам. Ён проста паехаў, а я падаўся ў бок. Я цяперака еду—па сабе. І я ня чую цяпер за сабою белага паляка.

* * *

Каля канавы—хлопцы з нашай вёскі: Лаўрэн Тадэвушаў, Максім Крупнічак, Пахом Цітаў, Лявон Анупрэйчык... І яшчэ—незнаёмыя нейкія. Мусіць, ці не з Балотца. У іх таксама ляворвары. Мяне—пакуль я адразу не пазнаў быў аж страх працяў. (Потым я ўжо здаўмеўся, што яны хочуць падсьцерагчы белых палякаў).

Гарыць агонь і мы ўсе вот гэтак каля агню. Аж нават неяк весела. Дарма сабе, што няма як, праз белых палякаў, ісьці дадому.

— Маладзец,—кажа мне дзядзька Тодар,—маладзец, што ня ехаў за мною, а разьехаўся.

Цітаў Пахом кажа:

Табе-ж трэба было адразу падумаць: удвох будзеце ехаць—абодвых можа злавіць белы паляк. А так—аднаго каторага.

І мне аж весела, што сьцяміў я ды разьехаўся па сабе.

— Каб польскі ахвіцэр паехаў за ім (гэта, за мною),—кажа Лявон Анупрэйчык,—злавіў-бы.

— Ня вельмі...—кажу я.—Машка мая бегла на ўсю сілу.

— Злавіў бы,—паддакуе адзін з незнаёмых.

А я сам сабе другое думаю, толькі не хачу ім ісьці больш на перакорлівасьць.



*Каля канавы былі хлопцы з нашай вёскі і яшчэ—незнаёмыя нейкія.*

— І вышлася яно, маё малое, што мы ад польскага ахвіцэра ўцяклі,—кажа дзядзька Тодар.—Калі разьехаліся—ахвіцэр паехаў за мною. Убачыў, што конь лепшы ў мяне (вельмі-ж порсткі мой конь). На выскачку ехаў я і каб трохі—да самага-б балота. Саўсім крыха заставалася, каб даехаць, як—скінуўся быў з каня. Тады бягом пабег, ня пусьціў каня з рук. І ўжо—вот, вот—ахвіцэр наехаў.

А я адразу і пайшоў па балоце з канём. „Стой, стой!"— крычыць ахвіцэр,—кажа дзядзька.—І ўсё цэліцца, каб выстраліць. Пстрык, пстрык, а яно і не страляе.

— Патронаў ня было, бадай,—заўвагу зрабіў Цітаў Пахом.—Ня было-б цябе ўжо, Тодарка!..

— Мусіць, што ня было патронаў,—кажа дзядзька.— Я нават і ня меў на вуме, што ён будзе спробу рабіць— страляць у чалавека...

Дзядзька Тодар палажыў на агонь галіну ды гаварыў:

— А з каня свайго, ліхі гад, ня хоча злазіць: капытуе поплаў—хоча, каб ехаць за мною на кані, па балоце. Дык дзе-ж то відана—такі-то сухапутны конь і ні блізка... На дыбкі становіцца.

І калі дзядзька Тодар гаворыць нам усім,—мы чуем, што нехта бяжыць да вогнішча. Я гляджу на Цітавага Пахома, а ён папраўляе рукою за пазухаю ляворвар. (Каб ён ня вытаркаў).

— Што робіцца!.. Што робіцца!..—сіпатым, ціхім голасам кажа, падбягаючы да вогнішча, Мікітава Зося,— усё дашчэнту ачысьцілі, кажа яна да дзядзькі Тодара,— усю адзежу, да рубчыка, забралі. Палатно забралі. Гэта-ж за тое, што ты ўцёк. Смусь падказаў, дзе ты жывеш... Мы-ж усе бачылі, як вы ўцякалі.

— Смусь думае, што ён будзе векаваць солтысам,— кажа са злосьцю дзядзька Тодар.

Лявон, здаецца, аж хацеў скамячыць свой ляворвар.

— Яны казалі нават,—кажа Зося,—падпалім тваю хату. Іх-жа поўна вёска. Адступаюць і адступаюць, без канца...

І калі я слухаю, як апавядае Зося—у мяне вунь якая ўздымаецца злосьць на польскага ахвіцэра.

Па-першае, што гэта,—хіба яго коні? А па-другое: хай ён сабе ведае, што і ў дзьдзькі Тодара і ў майго бацькі магла-б застацца, бяз коняй, не пасеенай грэчка.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Раніцаю Лаўрэн Тадэвушаў, Марцін Крупнічак, Пахом Цітаў і вельмі-ж шмат незнаёмых з ляворварамі (як потым я даведаўся—гэта былі партызаны) сустрэліся каля старых бяроз, што за нашаю вёскаю, з чырвонымі армейцамі.

Чэрвень, 1932 г.

# ПЕРАМОГІ ПЯЦІГОДКІ

ГОМСЕЛЬМАШ



З кожным годам вырастаюць у нас усё новыя і новыя фабрыкі і заводы. Растуць буйныя калгасы. Растуць новыя будынкі для школ, больніц, устаноў. Расьце дабрабыт рабочых, калгасьнікаў і працоўных сялян.

За першую пяцігодку мы пабудавалі ў Беларусі такія гіганты, як ГОМСЕЛЬМАШ, АРШАНСКАЯ ЭЛЕКТРАСТАНЦЫЯ імя СТАЛІНА, БАБРУЙСКІ ДРЭВААПРАЦОЎЧЫ КАМБІНАТ, МАГІЛЕЎСКАЯ ШОЎКАВАЯ ФАБРЫКА ды інш.

ШТО ДАЕ НАМ ГОМСЕЛЬМАШ?

Ён дае машыны для калектыўнай сельскай гаспадаркі. Машыны для апрацоўкі кармоў жывёлам.

Жывёлагадоўля займае ў нашай краіне вялікае месца. Мы маем буйныя саўгасы і калгасы, якія разводзяць і гадуюць жывёлу.

Да канца пяцігодкі нашы саўгасы і калгасы будуць мець 5 з пал. мільёнаў дробнай і 2 з пал. мільёны буйнай жывёлы.

Гомсельмаш вырабляе такія машыны: СІЛАСАРЭЗКІ, БУЛЬБАСАРТЫРОЎКІ, СЯЧКАРНІ, БУЛЬБАМЫЙКІ, КАНЮШЫНА-САРТЫРОЎКІ.

Бяз гэтых машын ня зможа абыходзіцца ніводзін саўгас і калгас.

У гэтым годзе Гомсельмаш павінен даць 11 тысяч сіласарэзак, 3 тысячы сячкарняў, 2500 бульбамыек, 5 тысяч бульбасартыровак і тысячу канюшына-сартыровак.

Такі размах работы гэтага буйнага заводу.

Аршанская электрастанцыя імя Сталіна пабудавана сярод тарфяных балот. Гэтая станцыя дае электрычны ток для фабрык і заводаў ВОРШЫ, ВІЦЕБСКУ, ШКЛОВУ, МАГІЛЕВУ і многіх бліжэйшых мястэчак, саўгасаў і калгасаў. Апалам для электрастанцыі служыць торф.

Для прамысловасьці гэтага раёну станцыя мае вялізарнае значэньне.

У недалёкім часе такія станцыі будуць пабудаваны і ў другіх тарфяных раёнах.

Гэта першыя галоўныя перамогі першай пяцігодкі вялікага будаўніцтва ў нашай краіне.



АРШАНСКАЯ ЭЛЕКТРАСТАНЦЫЯ імя СТАЛІНА.



# ЗІЦЯЧАЯ ПЛЯЦОЎКА

На дзядзінцы каля школы
Расшумеліся, як пчолы,
Гэтым цёплым летнім часам
Дзеці нашага калгасу.

Што за гоман тут вялікі,
Песьні звонкія і крыкі?
Ну, няйначай,
Сад дзіцячы?

Вам адкажуць без запінак
Усе русыя галоўкі:
—Тут дзіцячая пляцоўка,
—Тут наш летні адпачынак!

Многа цацак тут цікавых,
Многа рознае забавы.
Вось Міколка і Агатка
Паліваюць свае градкі,
Каб расьлі, ішлі угору
Гарбузы і памідоры.

А за імі Ганна з Поляй
Тыя градкі чыста полюць,—
Знаюць: градкам шмат бяды
Ад травы ды лебяды.

Там Янук і Ясь, і Майя
Дружна ў мячыка гуляюць.
А малыя Юлька з Галькай
Дык майструюць сабе лялькі.

Апанас, Ігнась і Ганна
Ладзяць трактар дзеравяны.

Усе занятыя работай—
Забаўляюцца з ахвотай.



# У КРАІНАХ ГОЛАДУ І ЖАБРАЦТВА

## МАЛЕНЬКІЯ НЯВОЛЬНІКІ

У буржуазных краінах закон дазваляе браць дзяцей хоць-бы на самую цяжкую і шкодную работу.

У Бэрліне працуе на фабрыках і заводах 7895 дзяцей. З іх 400 дзяцей—дашкольнікі. Гэта дзеці 5—6 гадоў.

Дзеці працуюць больш 6-ці гадзін у дзень. Зарабляюць яны за сваю цяжкую работу да 2 марак (1 руб.) на тыдзень. Гэтых грошай не хапае нават на хлеб.

Буржуазны ўрад Нямеччыны не клапоціцца аб дзецях працоўных.

Вось цікавыя прыклады.



Для ўтрыманьня 754 паліцэйскіх сабак ўрад Бэрліну адпусьціў 460 тысяч марак. А для мільёнаў вучняў адпушчана на гарачыя сьнеданьні толькі 250 тысяч марак.

Затое для сваіх слуг буржуазія не шкадуе грошай. Адзін толькі дырэктар Гамбурскай параходнай кампаніі атрымлівае 800 тысяч марак у год.

Так жывуць дзеці рабочых у буржуазных краінах.

Буржуазія для змаганьня з рабочымі трымае сотні тысяч паліцэйскіх, арганізуе свае фашысцкія атрады. Часта ў ход пускаецца нават войска.

Амаль кожны дзень адбываюцца бойкі між фашыстамі і рабочымі. Фашыстыя і паліцыя нападаюць на мірныя дэманстрацыі рабочых. Азьвярэлыя фашысты пускаюць у ход газы, кулі.

Турмы перапоўнены лепшымі рэвалюцыянэрамі.

Але ні кулі, ні газы, ні турмы ня спыняць рэвалюцыі.

Чырвоны фронт ва ўсім сьвеце расьце і шырыцца.



ТАК РАСПРАЎЛЯЮЦЦА ФАШЫСТЫ З ПРАЦОЎНЫМІ, ЯКІЯ ВЫСТУПАЮЦЬ ЗА ВОЛЮ, ХЛЕБ І ПРАЦУ



# Вопратка



**(З ЖЫЦЬЦЯ ВУЧНЯЎ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ)**

**Апавяданьне дзяткора МАЛІНІНА**
**Малюнкі М. МАЛЕВІЧА**

Настаўнік спыніўся каля задняй скамейкі. Вучань перад ім пісаў у сшытку:

2×2=4

— Што такое?—строга сказаў настаўнік.

— Два разы па два — чатыры, — ціха адказаў вучань.

— Што гэта?—ткнуў настаўнік пальцам у плячо хлопчыка.—У школе сядзець у вопратцы? Хто дазволіў?

Хлопчык задрыжаў, напалохаўся.

— Мне... Мне... холадна,—прашаптаў ён.

— Холадна? — зарагатаў настаўнік. — Зараз я цябе нагрэю.

Настаўнік падняў шырокую дубовую лінейку.

— Ты лгаць яшчэ будзеш—трах!.. Што табе ўвесну—трах!..—холадна... трах! Ось

я табе, я табе... У тахт словам стукала лінейка па хлопчыку.

Хлопчык захістаўся і споўз пад скамейку.

— Зьняць з яго вопратку!—загадаў настаўнік.

З першай скамейкі вышлі два добра адзетыя вучні. Яны паднялі хлопчыка з-пад скамейкі і пачалі разьдзяваць.



Хлопчык ледзь прагаварыў ад зьнясіленасьці.

— У мяне...

Тыя вучні, якім загадаў настаўнік разьдзець хлопчыка, моцна зарагаталі.

— У яго...

— Што ў яго?—крыкнуў настаўнік.

— У яго... пад вопраткай... гы-гы-гы... нічога больш няма, пане настаўнік.

— Як нічога?—закрычаў настаўнік.

— Так, пане настаўнік. Вопратка—усё яго адзеньне.

— Вон з школы галетнік! Набудзеш адзеньне, тады прыходзь вучыцца.

— У нас нічога няма... ледзь прагаварыў хлопчык, плачучы.—Мой бацька ўжо другі год беспрацоўным...

— Ну, такім ня месца ў нашай школе! Вон!—зноў замахнуўся дубовай лінейкай настаўнік-фашыст.

Бедны хлопчык назаўсёды пакінуў гэтую школу.




## ПОЛЬСКАЯ РЭВАЛЮЦЫЙНАЯ ПЕСЬНЯ

На барыкады, на барыкады:
Сьцяг наш чырвоны воляй цьвіце.
Мы пераможам зьдзек і пагарду
З песьняй і стрэльбай у цьвёрдай руцэ.

ПРЫПЕЎ:

Сталь ў далонь!
Бі у бронь!
Пырсьне сталь
Іскраю ў даль.

Жар агнявы—
Бляск баявы.
За ім паўстань:
Агнём палае рань.

Сёстры, паклічце брата змагацца,
Каб ён адважным у бойцы той быў,
Куль не баяўся, біўся і сьмела
Права на працу сабе ён здабыў.

Леніну слава і Марксу слава.
Зьнішчым паноў, каб ня мець іх нідзе.
Гэй, вывучайце словы і справу,
Словы і справу, што ў бой нас вядзе!

Над барыкадамі сьцяг наш узьняты
Серпа і Молата—вогнены знак.
Сьмела у бойку з ворагам—катам,
Дружна наперад, сьмелы ваяк!

ЯНКА МАЎР.




Малюнкі А. ТЫЧЫНЫ

(ПРАЦЯГ *).

Усе мы ведаем, што глеба на Беларусі бяднейшая, як, скажам, на Украіне. І ўраджаі меншыя. Калі не дасі ўгнаеньня, дык і зусім ураджай дрэнны будзе. Увесь час галоўнай думкай земляроба было—угнаеньне. Шмат хто і кароў трымаў ня столькі для малака, як для гною. І ўсероўна ўгнаеньня хапала толькі ня больш як на палову плошчы (46 працантаў).

І вось цяпер выявілася, што гэты самы торф можа служыць вельмі добрым угнаеньнем. Дзесяткі тысяч гэктараў угнойваюцца ім і даюць тысячы тон дадатковага ўраджаю. Апрача энэргіі, цяпла балота дае ўжо хлеб.

Мала было гаспадарак, дзе-б досыць хапала саломы. Часта не хапала саломы на пракорм скаціны, а на падсьцілку і зусім не заставалася. Стаяла жывёла па калені ў гразі, мерзла, хварэла. Дзе там да малака, абы толькі выжыць! А колькі гінула ад хвароб!

---

*) Пачатак гл. у № 11.

А тым часам, побач, у балотах, ляжала добрая падсьцілка — торф. Сухі торф зьяўляецца нават лепшай падсьцілкай як салома, бо больш уцягвае ў сябе вады. І, апрача таго, застаецца як гной, лепшы за саламяны (на 26 працантаў для бульбы і на 10 проц. для збожжа).

А ці нельга было-б будаваць з торфу дамы?

Калі ласка. Сям-там будуюцца ўжо. Калі ўзяць з двух бакоў шалёўкі ды насыпаць паміж іх торфу, дык будзе вельмі прыгожая і цёплая сьцяна. Калі шкада шалёвак, можна ўзяць жэрдкі, гальлё, а потым замазаць глінай ці вапнай. Будзе „мураваны" дом. Выраблююць з торфу і цэглу, а з яе ўжо можна будаваць вялікія дамы. Вельмі добрыя „тарфяныя" дамы: цёплыя, легкія, недарагія, нават менш баяцца пажару, як драўляныя. І, нарэшце, яшчэ адна выгада: праз сьцены бадай што не праходзіць шум і грукат знадворку. Добра было-б нам з вамі пасяліцца ў тарфяным доме!

Каля нашага тарфянога дому, як і каля кожнага іншага, трэба ставіць уборную. Дрэннае месца—бруд, смурод. Ну, што-ж? Скарыстаем і тут торф. Будзем пасыпаць ім адкіды, і смурод зьнікне і бруду ня будзе. Адзін кілёграм сухога торфу можа паглынуць 16 кілёграмаў вадкасьці! Значыцца і торфу патрэбна будзе ня так ужо многа. А той бруд, які цяпер няма куды дзець, можна будзе тады вывозіць на палі, як угнаеньне. І ўраджай гародніны будзе на 130 працантаў большы, як ад звычайнага тарфянога ўгнаеньня.

А чаму-ж не выраблядь з торфу паперы? Праўда, прасьцейшы гатунак, выходзіць, паковачны, але і ён нам вельмі патрэбны. Хай тады дрэва ідзе толькі на лепшую паперу.

А потым можна ўзяцца і за тарфяную вопратку. Нішто тканіна выходзіць. Праўда, „параднага“ адзеньня з торфу ня зробіш, але якую-небудзь спэцвопратку для працы на торфараспрацоўках можна і варта будзе зрабіць.


*З торфу можна зрабіць і вопратку.*

Пры выплаўцы жалеза на мэталюргічных заводах галоўным матар'ялам зьяўляецца кокс, які вырабляецца з каменнага вугалю. Шмат каштоўнага вугалю ідзе на кокс. Вось і тут можа дапамагчы торф: з яго таксама можна здабываць кокс.

Смала з торфу ня горшая, як і з дрэва, а для вырабу торфяного сьпірту мы ўжо будуем спэцыяльны завод.

Будуецца таксама завод і для вырабу тарфяных фарбаў.

І лякарствы дае торф і на радыё ідзе, і немагчыма пералічыць усяго таго, што з яго можна зрабіць. Толькі есьці яго нельга...


*Дом з торфу.*

Але, выбачайце, — можна!

Хоць і ня нам самім, а жывёлу карміць можна. У Германіі даўно ўжо кормяць. Для гэтага малады торф перамешваюць з мэлясай (адкіды пры



*Торфараспрацоўкі на Асінаўскім балоце.*

вырабе цукру) і выходзіць нават вельмі добры корм. Яго можна было нават за мяжу вывозіць, бо наша жывёла не магла-б зьесьці ўсіх балот.

У тарфяным хляве, на тарфяной падсьцілцы, з тарфяным кормам нашы каровы, мусіць, добра адчувалі-б сябе.

Нядрэнна было-б і нам з вамі ў тарфяным доме, з тарфяной электрычнасьцю пасядзець узімку каля тарфянога цяпла і есьці тарфяны хлеб з тарфяным малаком...

Вось што можа даць „Край бедны“, калі скарыстаць яго „праклятыя“ балоты, як належыць. А скарыстаць іх такім чынам стала мажлівым толькі тады, калі пралетарыят, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, зьнішчыў усе перашкоды для разьвіцьця краіны, узяўся будаваць сацыялізм.

Не здарма тав. Ленін яшчэ ў 1922 г. пісаў:

„Каб узьняць торфаздабываньне, трэба шырока паставіць прапаганду — лістоўкі, брашуры, перасоўныя выстаўкі і кінематаграфічныя здымкі, выданьне падручнікаў, увесьці ў абавязковы прадмет вышэйшых навучальных установ курс торфаздабываньня, штогод пасылаць экскурсіі за граніцу“.

Яго загад выконвае цяпер партыя і ўлада.

# СКІНЬ ВОРАГА




## ШТО ПАТРЭБНА ДЛЯ ГУЛЬНІ

Зрабеце з фанеры некалькі макетаў—школу, клюб, ясьлі, завод і г. д.

Потым зрабеце некалькі ляляк—нашых клясавых ворагаў: кулака, рабіна, папа, сэктанта. Зрабіць гэтыя лялькі вельмі лёгка. Галовы зрабеце з круглых кавалкаў дрэва і размалюйце іх так, каб былі падобны на папа, кулака, рабіна і г. д. Сама фігурка робіцца з анучак і да яе прывязваецца галава (гл. малюнак).

У галаву фігуркі ўбіваецца цьвічок. Далей зрабеце вудачкі, да шнуроў якіх прывязваюцца колцы.

Фігуркі пасадзеце на макеты. Удзельнікі стараюцца надзець колцы на цьвік і скінуць ворагаў (гл. малюнак).

## ЯК ГУЛЯЦЬ

1. Гуляюць адразу столькі чалавек, колькі ёсьць фігурак і вудачак.

2. Перад гульнёю кіраўнік дае пытаньні ўдзельнікам. Пытаньні могуць быць розныя. Напрыклад: чым шкодна рэлігія для працоўных. Тыя, што правільна адкажуць, становяцца гуляць першымі.

3. Далей кожнаму ўдзельніку даецца ў рукі вудачка і ён становіцца на пэўнае месца на 1—2 мэтры ад мішэні.

4. Па сігналу ўдзельнікі пачынаюць гуляць. Кожны стараецца падчапіць колцам ворага і скінуць яго з школы, з клюбу і г. д.

5. Той, хто надзене колца першым — атрымлівае прэмію (кніжку, карандаш, сшытак і інш.) і залічваецца ў лік спрытнейшых удзельнікаў гульні.

6. Калі ва ўсёй групе ніхто на працягу 3—5 хвілін не падчэпіць ворага, дык кіраўнік дае сігнал, спыняе гульню і мяняе месцы ўдзельнікаў.

7. Адна група перадае вудачкі другой тады, калі большасьць удзельнікаў гэтай групы падчапілі ворага. Выйграе ў часе гульні тая група, удзельнікі якой за карацейшы час падчапілі і скінулі больш ворагаў.

ЖАРТ



# РЫБАК

Прышоў Ясь дахаты
З рыбы сумнаваты.
— Мусіць, няудача
У цябе, няйначай?
— Што ты, што ты, мама,
Я злавіў нямала:
— Плотку, як калодку,
Акуня з каня,
Карася з парася,
Язя з лася,
Шчупака з быка,
А чырвонапёрку,
Дык з цэлую горку...
— Дзе-ж яны—паказвай!
— Уцяклі ўсе разам...

# РЭБУС



Як разгадваць рэбусы—аб гэтым глядзі ў № 5 нашай часопісі.

Працоўныя Савецкага Саюзу, пад кіраўніцтвам партыі і яе правадыра, будуюць сацыялізм.

Знайдзі на гэтым малюнку партрэт правадыра партыі.

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ
„ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Рэдактары: Л. РУСАКОВА.
А. ЯКІМОВІЧ.

# З Л А В І Л І...

Малюнкі М. МАЛЕВІЧА.



Байскаут—вораг піанэраў. Убачыў ён, што піанэры, схаваўшыся за плотам, чытаюць сваю газэту.—Ага, злавіў!—парашыў байскаут. — Я-ж іх правучу!



Ходзіць па вуліцы гораду тоўсты адкормлены, як парсюк, жандар. Байскаут да яго.



— Заб'ю! Арыштую! У турму заганю гэтых крамольнікаў!—Вароў жандар і пабег з дубінкаю лавіць „крамольнікаў".



**— Не схаваецеся вы ў мяне... Злаўлю! — кінуўся жандар на плот.**




**Але... напароўся тоўсты жандар носам на вострую шчыкеціну. Зароў ад болі...**




**— О, псякрэў! Гэта праз цябе я так пакалечыўся! — накінуўся зьбянтэжаны ад болі і няўдачы жандар на байскаута. Хоць на ім спагнаў злосьць.**

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 1419. 3.600 экз. Уп. Галоўлітбелу № А—5.

